Жыла ды была ў краіне Нідэрланды жырафа Раф. Гэта была не проста жырафа — Раф умеў размаўляць, хоць і жыў у заапарку. Аднойчы найлепшы сябар Рафа хлопчык Дзікечэ запрасіў Рафа ў школу. Там жырафа навучылася лічыць і чытаць. А пра гісторыю сяброўства Рафа і Дзікечэ знялі фільм. Аднойчы да Рафа прыйшоў паштальён і прынёс ліст з Беларусі. У ім хлопчык Януш з Мінска, які паглядзеў фільм пра Рафа, запрашаў жырафу ў госці.



Раф згадзіўся, бо ён ніколі не быў у Беларусі! Ён апрануў цёплы шалік, каб не застудзіцца па дарозе, надзеў лётны шлем і акуляры і сеў у самалёт! Каб дабрацца з Нідэрландаў у Беларусь Раф зрабіў вялікі шлях: ён праляцеў праз усе Нідэрланды, Нямеччыну і Польшчу. Усю дарогу свяціла сонейка, а самалёт суправаджалі птушкі, таму Рафу не было сумна.





І вось Раф прызямліўся ў аэрапорце Мінск-2. Усе былі вельмі рады яго бачыць, але асабліва рады быў беларускі хлопчык Януш, які для сустрэчы госця апрануў сваю найлепшую вышыванку.

– Прывітанне, Раф! – сказаў Януш.

– Прывітанне, Януш! Якая ў цябе прыгожая вышыванка! – сказаў Раф.

– Дзякуй, Раф! – адказаў Януш. – Хадзем гуляць па Мінску!









Новыя сябры гулялі па сталіцы Беларусі. Януш паказаў Рафу многія вядомыя куточкі Мінска— і Траецкае прадмесце, і Нацыянальную Бібліятэку, і праспект Незалежнасці ды многае іншае. Яны нават пракаціліся на коле аглядаў у мінскім парку!

–Які прыгожы ў вас горад!– сказаў Раф.







Янушу быў час ісці ў школу, і Раф пайшоў разам з ім. Першым урокам была беларуская мова. Рафу яна вельмі спадабалася, і ён старанна вучыў усе літары разам з дзецьмі. А яшчэ настаўніца сказала, што беларуская мова – вельмі старажытная і першая кніга па-беларуску была надрукаваная больш за 500 год таму!

– Не можа быць! Так даўно? – здзівіўся Раф.

– Так! Не верыш – хадзем у музей, дакажу! – адказаў Януш, які ведаў і любіў мову і гісторыю.



# 500 ГОД
# БЕЛАРУСКАЙ БІБЛІІ



БІБЛІЯ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ

**У музеі экскурсавод распавяла пра тое, што Францыск Скарына надрукаваў першую кнігу па-беларуску – Біблію – у 1517 годзе, больш за 500 год таму! І гэта было раней, чым у Нідэрландах ці ў большасці іншых краін свету. Раф вельмі здзівіўся! Ён не ведаў гэтага. А яшчэ Януш і Раф убачылі ў музеі старажытную зброю, вопратку і даспехі. Ім вельмі спадабалася ўяўляць сябе старажытнымі рыцарамі і друкарамі.**

— А цяпер я пакажу табе жывёл, якіх ты ніколі не сустракаў у сваім заапарку! — сказаў Януш Рафу. — Гэты лес называецца Белавежская пушча, ён самы стары ў Еўропе. І тут жывуць зубры. Вунь яны!
— Якія велічныя і сур'ёзныя звяры! — адказаў Раф і крыкнуў: — Прывітанне, зубры!
Зубры паглядзелі на Рафа з цікаўнасцю.
— Цяпер я разумею, чаму яны адзін з сімвалаў Беларусі.
— Так, — пацвердзіў Януш. — Пра зуброў нават склалі цэлую паэму і назвалі «Песня пра зубра». Гэта было ў 16 стагоддзі, падчас эпохі Рэфармацыі, Залатога веку нашай краіны. Але зубры тут з'явіліся яшчэ раней, нават раней за Камянецкую, альбо Белую вежу. Яна стаіць вунь там удалечыні.
— Якая цікавая ваша краіна! — захоплена сказаў Раф.








Пасля Раф і Януш пайшлі ў кіно. Яны паглядзелі вельмі цікавы фільм, агучаны на беларускую мову. Сабралася поўная зала дзетак і дарослых.

– Беларуская мова такая прыгожая! Я б хацеў чуць яе паўсюль! – сказаў Раф.

– Я таксама! Так добра, што ўсё больш і больш беларусаў вучаць яе і размаўляюць на роднай мове! – адказаў Януш.

– Так, бо ў Нідэрландах ўсе размаўляюць па-нідэрландску, а Беларусь нічым не горшая за Нідэрланды! – пагадзіўся Раф.

Вось і надышоў час развітацца. Януш падарыў Рафу прыгожую беларускую вышыванку, а Раф падарыў Янушу нідэрландскія драўляныя боцікі. За гэты час Раф многае даведаўся пра Беларусь і палюбіў яе ўсім сэрцам.

– Да пабачэння, Раф! Прыязджай яшчэ! – сказаў Януш.

– Абавязкова, Януш! Мне вельмі спадабалася Беларусь! Дзякуй, што паказаў мне сваю цудоўную краіну! – адказаў Раф.



# ЗААПАРК

Перад вамі гісторыя-маляванка жырафы Рафа з Галандыі, які прыехаў у госці да свайго сябра ў Беларусь. Гэтая маляванка зроблена ў межах праекта фільмаў па-беларуску «Беларускія ўікэнды» і кніжнай серыі «Добрая кніга».

Кніга выдадзеная пры падтрымцы кампаніі

velcom